**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 15 (836) 14 красавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

*Фота Ул. Скрабатуна*





ISSN 2077-8023







## Беларусь у бліжэйшы час плануе палегчыць візавы рэжым

Беларусь у бліжэйшы час плануе палегчыць візавы рэжым. Аб гэтым 08.04.2016 заявіў на прэс-канферэнцыі ў Маскве міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, перадае карэспандэнт БелТА. *"Мы думаем, як палегчыць візавы рэжым для тых, хто хоча наведаць Беларусь. Гэта пытанне абмяркоўвалася на ўзроўні кіраўніка дзяржавы. Лічу, у бліжэйшы час адбудуцца канкрэтныя адпаведныя крокі"*, - сказаў міністр. Турызм - вельмі перспектыўны напрамак, у тым ліку для Беларусі. У краіне прынялі шэраг мер для яго развіцця. Паводле слоў міністра, будзе ўдасканальвацца заканадаўства ў гэтай сферы. *"Турызм для нас важны напрамак. Мы будзем займацца ім"*, - падкрэсліў Уладзімір Макей.

***БелТА.***

Полацкі раён

# На тое ён і крызіс

■ Чэслаў Якубовіч.

**На вельмі многіх айчынных прадпрыемствах зараз склалася няпростая сітуацыя, яны прастойваюць, пераходзяць на няпоўны працоўны тыдзень.**

З-за адсутнасці альбо змяншэння колькасці заказаў у працаўнікоў прыкметна зменшыліся заробкі. У адрозненне ад іншых, прадукцыя ААТ “Полацкі малочны камбінат” карыстаецца попытам у спажыўцоў, бо мае высокую якасць і прыемны смак. На чарговай XXIII Міжнароднай выставе харчовай прамысловасці “Прадэкспа-2016” у Маскве менавіта іх малако “Палачанка” і масла “Сялянскае” з доляй тлушчу 72,5 % былі адзначаны сярэбранымі медалямі. Сыркі тварожныя палачан пад брэндам “Молочное раздолье” прывезлі дамоў “бронзавую” ўзнагароду. Аднак гэта дасягненне ніяк не адбілася на дабрабыце працаўнікоў прадпрыемства, якое перажывае не па сваёй віне вытворчыя і эканамічныя цяжкасці. Галоўныя з іх – банальныя для галіны, на перапрацоўку стала меней паступаць сыравіны, у параўнанні нават з мінулым годам. У сувязі з гэтым дырэкцыя камбіната вымушана была пайсці на непапулярныя меры істотных змен умоў працы. З 1-га красавіка распараджэннем дырэктара У. Яцкевіча, узгодненым з прафкамам, малочны камбінат перайшоў на няпоўны графік працы. Кожнаму работніку ўручылі адпаведныя ўведамленні пагадзіцца працаваць меней гадзін у змену, альбо лішні дзень адпачываць. Тых, хто не будзе згодны з такой вымушанай рэарганізацыяй, чакала непазбежнае звальненне з выплатай, праўда, грашовай дапамогі ў памеры двухтыднёвага заробку. Між тым даходы людзей на Полаччыне падаюць, у адным з самых багатых гарадоў краіны суседнім Наваполацку з пачатку года зарплаты “ўсохлі” ўжо на 1,3 млн. рублёў.

Пастаўскі раён

# Заляжалыя тавары паўсюдна

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам паўсюдна ў краіне вельмі актыўна сталі праводзіць маніторынгі дзейнасці магазінаў, інтэрнэт-крам і аб'ектаў грамадскага харчавання.**

На працягу першага квартала сёлета такія праверкі былі праведзены па даручэнні Камітэта дзяржкантролю і на 51 аб'екце гандлю ў Пастаўскім раёне. Найболей санслужба праверыла 27 крам мясцовага райпо, а таксама 14 прыватных кропак гандлю ў горадзе і сельскай мясцовасці. Толькі ў дзвюх з іх: у прадмагу вёскі Крукі і ў адной краме райцэнтра не было выяўлена ніякіх парушэнняў заканадаўства аб гандлі, абароны праваў спажыўцоў і рэкламы. Аднак у кожным трэцім правераным гандлёвым прадпрыемстве выявілі кантралёры розныя парушэнні санітарных норм, незахавання ўстаноўленага асартыменту тавараў для рэалізацыі. Ля многіх магазінаў няма патрабуемых кантэйнерных пляцовак і прыбіралень, частка з іх патрабуе рамонту. Асноўнай жа праблемай большасці гандляроў з дзяржгандлю з'яўляецца продаж тавараў з пратэрмінаванымі тэрмінамі для рэалізацыі, праўда, у ніводнага прыватніка такіх фактаў не было выяўлена. Своеасаблівы антырэкорд дастаўся магазіну райпо ў прыгараднай вёсцы Шыркі, дзе знайшлі 80 найменняў пратэрмінавых тавараў. З продажу там былі зняты 82 кілаграмы бракаваных прадуктаў, а пасля праверкі магазін закрылі на капітальны рамонт. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты шэраг юрыдычных асоб гандлю і дзясяткі іх работнікаў.

Талачынскі раён

# Бойся “дзетак” садыстаў

■ Станіслаў Раманчук.

**Раней справядліва лічылася, што ў сельскай мясцовасці жывуць больш чалавечныя і душэўныя людзі, чым у буйных гарадах.**

Аднак у наш час норавы змяніліся ў горшы бок і ў глыбінцы, а ў гарпасёлку Коханава, што ў Талачынскім раёне, адбыўся сакавіцкім суботнім днём неверагодны выпадак з удзелам непаўналетніх дзяцей. Мясцовыя жыхары, якіх тут пражывае звыш 4 тысяч чалавек, доўга абмяркоўвалі, як трое вучняў 6 і 7-га класаў мясцовай СШ сталі на вуліцы здзекавацца над катом. Юныя садысты спачатку камянём разбілі беднай жывёліне галаву, потым пазбавілі вачэй і нарэшце павесілі бездапаможную ахвяру. Мясцовая жыхарка напісала ў міліцыю адпаведную заяву, але прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці недавумкаў не дазваляе закон з-за іх узросту. Падчас разборак здарэння ў мясцовай школе высветлілася, што самы малодшы з тройкі не ўдзельнічаў у жорсткай расправе над катом, ён стаў міжволі сведкам экзекуцыі. Аднак “герояў” гэтага дзікага інцыдэнту аб'ядноўвае тое, што ўсе яны выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях без бацькоў і толькі ў аднаго з іх з'явіўся нядаўна айчым. Праўда, 13-гадовага выканаўцу смяротнага пакарання жывёліне ўсёй ж паставяць на прафілактычны ўлік у інспекцыю па справах непаўналетніх, бо ён і над птушкамі здзекаваўся раней. Насцярожвае ў гэтай сумнай гісторыі і тое, у каго з цягам часу пертвораца гэтыя хлопчыкі з нездаровымі інстынктамі. Спецыялісты між тым папярэджваюць, што ўсе вядомыя серыйныя забойцы і маньякі пачыналі з таго, што ў дзяцінстве таксама мучылі і забівалі дамашніх жывёлін і былі абдзелены цяплом сямейнага шчасця.

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ АДМЕНЫ САНКЦЫЙ БЕЛАРУСІ ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНА АКТЫЎНЕЙ РАЗВІВАЦЬ ЗАХОДНІ ВЕКТАР СУПРАЦОЎНІЦТВА З СУСЕДЗЯМІ І ЕС



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Нашы народы-суседзі, што вельмі важна, ніколі не мелі ваенных і гістарычных канфліктаў. На жаль, захоўваюцца дагэтуль палітычныя рознагалоссі і гэта перашкаджае развіццю ўзаемнавыгадных гандлёвых сувязей.**

Апошнім часам мяне, як і многіх іншых суайчыннікаў не пакідае ўражанне, што цяперашні свет пакрыху зыходзіць з розуму. Рэдка які тыдзень абыходзіцца, каб з розных куткоў кантынента не прыходзілі паведамленні аб розных выбухах і забойствах мірных людзей, якіх ісламісты-фанатыкі палічылі “няверным” і сваімі ворагамі. Наша ўсходняя суседка Расія таксама “вызначылася” сваім ганебным прыгаворам палоннай украінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка. А колькі непрыхаванага зларадства прагучала з экранаў прапагандысцкіх, гебельсаўскіх фактычна цяпер іх федэральных тэлеканалаў наконт ранішніх тэрактаў у аэрапорце і метро Бруселя.

Апафеозам нянавісці правячай рускай палітычнай эліты як да ўкраінцаў, так і да заходняга грамадства стала красамоўнае выказванне прэстарэлага “дзеяча”, віцэ-спікера Дзярждумы РФ з яўнымі парушэннямі псіхікі У. Жырыноўскага. Гэты рупар Крамля прама сказаў, што такія забойствы выгадныя Расіі і выказаў пажаданне ў запале, каб на тэрыторыі ЕС яшчэ болей падыхала людзей. На гэтым вось фоне светлым момантам стаў афіцыйны візіт у Беларусь новага кіраўніка Міністэрства замежных спраў Польшчы Вітольда Вашчыкоўскага. Як вядома, каля гадзіны ў Мінску праходзіла сустрэча главы польскага знешнепалітычнага ведамства з беларускім лідарам А. Лукашэнка.

На ёй нязменны кіраўнік Беларусі зрабіў нават такую смелую заяву: “ будем стараться делать так, чтобы никто нас никогда не упрекнул в малой демократии, в отсутствии её. Мы будем так делать, чтобы её было не меньше, чем в Польше”. Зразумела, такія словы да нічога не абавязваюць, рабіліся, каб спадабацца высокаму госцю. Сам жа галоўны польскі дыпламат у Гродне з гордасцю заявіў: “ я таксама “тутэйшы!”. І гэта сапраўды так, бо беларусы з палякамі некалькі стагоддзяў разам жылі і супрацоўнічалі у адной агульнай вялікай канфедэратыўнай дзяржаве, маюць агульную гісторыю, блізкую культуру, аб'ядноўвае мільёны чалавек адна рэлігія. У В. Вашчыкоўскага, як і іншых вядомых польскіх палітыкаў, беларускія карані, ягоная маці з Ваўкавыскага раёна.

Нашы народы-суседзі, што вельмі важна, ніколі не мелі ваенных і гістарычных канфліктаў. На жаль, захоўваюцца дагэтуль палітычныя рознагалоссі і гэта перашкаджае развіццю ўзаемнавыгадных гандлёвых сувязей. Паказчык леташняга тавараабароту даволі сціплы – усяго 1,8 млрд. долараў. Польскі вопыт паспяховых рынкавых рэформ і пераўтварэнняў таксама можа быць карысным для Беларусі, аднак улада ўпарта трымаецца курсу на супрацоўніцтва чамусьці пераважна толькі на Усходзе.

Абнадзейвае, што неўзабаве могуць пачацца пэўныя перамены і ўжо летам у Мінск прыедзе віцэ-прэм'ер Польшчы, міністр эканомікі Я. Муравецкі. Тады пройдзе пасяджэнне міжурадавай камісіі па павелічэнні аб'ёмаў узаемнага гандлю. А пакуль глава Беларусі заявіў, што наша краіна гатова на самае цеснае супрацоўніцтва з палякамі. Вельмі падабаецца беларускаму кіраўніцтву, што ў Варшаве нязменна бачаць Беларусь незалежнай і суверэннай дзяржавай. Безумоўна, што і ва ўсім свеце ацанілі нашу самастойную пазіцыю наконт расійскай агрэсіі ва Украіне і адмову размясціць пад Бабруйскам расійскую ўдарную авіябазу, і таксама вызваленне з турмаў палітзняволеных.

Зараз ва ўмовах даволі сур'ёзнага эканамічнага крызісу для нас вельмі важна, што Еўрасаюз гатовы цяпер да наладжвання і пашырэння гадлёва-эканамічных адносін. Гэты факт таксама важнейшы і радуе, што Беларусь з чыстага ліста пачала дыялог і будзе наладжваць адносіны з самай дынамічнай дзяржавай Усходняй Еўропы. Цікава, што дзякуючы гэтаму палякі вырашылі вярнуць свой былы пенсійны ўзрост – 60 гадоў для жанчын і 65 – для мужчын, які дзейнічаў да 2012 года.

Іх папярэдні ўрад вырашыў паэтапна павялічыць час выхаду на пенсію для абодвух палоў да 67 гадоў. Але верагодна з будучага года пачне ў суседзяў дзейнічаць старое пенсійнае заканадаўства выхаду на заслужаны адпачынак, а па гэтым паказчыку мы можам быць падобнымі з палякамі. Праўда, сярэдняя працягласць жыцця за Бугам вышэйшая ў паноў на 8 гадоў, а ў кабет – на 4 гады. Узровень іх жыцця, польскіх заробкаў, дэмакратычных свабод таксама можа быць прыкладам для нас, як і тое, што на кожнае дзіця там увялі штомесячную дапамогу ў памеры 120 еўра. З такім паспяховым і прадказальным суседам прыемна мець справу, і я веру, што паступова пойдуць перамены да лепшага ва ўзаемных адносінах.

Неўзабаве глава беларускага МЗС Уладзімір Макей прыбудзе з візітам у Варшаву.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 14.04.16 | | | | Пятніца 15.04.16 | | | | Субота 16.04.16 | | | | Нядзеля 17.04.16 | | | | Пан. 18.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +10 | +9 | +5 | +3 | +3 | +8 | +5 | +1 | +6 | +11 | +8 | +7 | +7 | +13 | +11 | +10 | +9 | +12 |
| Ціск | 735 | 734 | 734 | 735 | 739 | 742 | 743 | 745 | 745 | 746 | 746 | 745 | 744 | 741 | 740 | 742 | 740 | 741 | 742 |
| Вецер м/сек | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 7 Ю-З | 8 С-З | 7 С-З | 5 С-З | 3 С | 2 С-З | 2 Ю-З | 5 Ю | 6 Ю | 4 Ю | 3 Ю-В | 7 Ю-В | 8 Ю-З | 5 Ю-З | 3 Ю-В | 6 З | 8 Ю-З |
| Вільготнасць | 89 | 91 | 87 | 85 | 85 | 71 | 43 | 77 | 88 | 61 | 45 | 58 | 73 | 93 | 76 | 78 | 88 | 92 | 47 |

## Дзень за днём

**У Беларусі будзе новы пенсійны ўзрост 63 гады для мужчын і 58 – для жанчын. Еўразійскі крэдыт Беларусь атрымае некалькімі траншамі, першы з іх - 0,5 мільярда долараў. У палове беларускіх раёнаў заробкі сталі меншыя 200 долараў. Падчас тэрактаў у Брусэлі атрымалі раненні трое грамадзян Беларусі. Беларусы з сярэднімі зарплатамі 307долараў сталі зарабляць у 2 разы меней румын, у 3 – палякаў і ў 4 разы меней эстонцаў. З 1 красавіка зноў падаражэлі асобныя віды цыгарэт. Міністэрства гандлю рэкамендавала магазінам пісаць цэны на тавары ў старых і новых грошах, каб людзі хутчэй прывыклі.**

## Важнейшыя навіны свету

**Галандыя.** Суд Міжнароднага трыбунала па былой Югаславіі ў Гаагe пакараў 40 гадамі турмы за ваенныя злачынствы былога лідара баснійскіх сербаў Р. Караджыча.

**ЗША.** Вядомы расійска-амерыканскі гісторык Ю. Фельштынскі заявіў, што новы прэзідэнт Х. Клінтан так сур'ёзна возьмецца за пуцінскую РФ, што яна перастане існаваць

**Германія.** Газета Bild надрукавала дакументы, як 6 рабочых груп урада Расіі на чале з віцэ-прэм'ерам Д. Козакам кіруюць дзейнасцю акупіраваных раёнаў Данбаса.

**Карэя.** Прэзідэнт Пан Кын Хе прывяла войскі краіны ў стан поўнай баявой гатоўнасці пасля імітацыі суседняй КНДР удару па яе рэзідэнцыі з удзелам правадыра Кім Чэн Ына.

**Сірыя.** Расія прызнала гібель яшчэ аднаго свайго афіцэра спецназа падчас аперацыі сірыйскіх войск па вызваленні ад ісламістаў старажытнага горада-помніка Пальміра.

**Кіпр.** У аэрапорце Ларнакі папрасіў палітычнага прытулку і здаўся спецназу ўгоншчык егіпецкага самалёта А320, ён пагражаў узарваць лайнер муляжом пояса смяротніка.

**КНДР.** Урад краіны заклікаў народ рыхтавацца да складаных часоў з-за санкцый і да голаду, грамадзян абавязалі штомесяц здаваць дзяржаве па аднаму кілаграму рысу.

**ЗША.** Дзяржсакратар Д. Керры пацвердзіў, што Пуцін паабяцаў заняцца справай асуджанай Н. Саўчанкі ў пэўны момант, у РФ ёй паабяцалі кар'еру "спявачкі" ў калоніі.

**Йемен.** Галаварэзы "Ісламскай дзяржавы" ўкрыжавалі выкрадзенага ў сталіцы краіны каталіцкага свявтара, забілі 4 манашак і 12 супрацоўнікаў прытулку маці Тэрэзы ў Адэне.

**Пакістан.** Ісламіст-смяротнік з руху "Талібан" у горадзе Лахоры ў парку падарваў сябе і яшчэ 70 чалавек, з якіх 30 дзяцей з хрысціянскіх сем'яў, было паранена шмат жанчын.

**Зімбабве.** Найстарэйшы ў свеце 92-гадовы прэзідэнт-дыктатар Р. Мугабе заявіў аб гатоўнасці зноў ісці на выбары і ў 2018 годзе, ён кіруе нязменна краінай з 1980 года.

**Расія.** Намеснік старшыні "Газпрама" А. Круглоў пацвердзіў, што рашэнне аб зніжэнні ў 2016 годзе цаны на газ для Беларусі пакуль не прынята, бакі не могуць дамовіцца.

**Польшча.** Урад краіны зацвердзіў законапраект аб бясплатным набыцці з 1 верасня шэрагу лякарстваў і медыцынскіх вырабаў палякамі ва ўзросце старэй 75 гадоў.

**ЗША.** Вучоныя-біёлагі Карнельскага ўніверсітэта атрымалі доказы небяспекі вегетарыянскай ежы для рызыкі ўзнікнення раку тоўстай кішкі, хвароб сэрца і сасудаў.

**Расія.** Моцна згаладалы 28-гадовы жыхар Ялізаўскага раёна Камчаткі скраў скрыню сасісак і паспеў з'есці іх за суткі, пакуль яго не адшукала і затрымала паліцыя.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Для асуджаных за наркотыкі хочуць адмяніць датэрміновае вызваленне



■ TUT.BY

**Для асуджаных за незаконны абарот наркотыкаў плануецца ўзмацніць парадак адбыцця асуджаных у месцах пазбаўлення волі. Прычым гэта закране як бытавых умоў, так і дысцыплінарнай практыкі і механізмаў ўмоўна-датэрміновага вызвалення. Гэтага запатрабаваў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе, прысвечанай праблеме наркабізнесу і наркаманіі, перадае БЕЛТА**

«Злачынны свет павінен разумець, што за распаўсюд наркотыкаў падыход будзе жорсткі. У месцах пазбаўлення волі - таксама. Такая мэта ўжо збольшага дасягнута», - заявіў сёння журналістам дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Станіслаў Засць. Паводле яго слоў, кампетэнтныя органы цяпер вывучаюць, як зрабіць больш жорсткім парадак адбыцця асуджаных у месцах пазбаўлення волі. Прычым гэта закране як бытавых умоў, так і дысцыплінарнай практыкі і механізмаў ўмоўна-датэрміновага вызвалення. «Людзі павінны разумець, што за гэтыя злачынствы датэрміновага вызвалення не будзе», - падкрэсліў дзяржсакратар. Станіслаў Засць са шкадаваннем адзначыў, што сёння на злачынных шлях становяцца і падлеткі, за што ў далейшым атрымліваюць немалыя тэрміны. «Закон павінен быць адзіны для ўсіх. Разам з тым сёння абмяркоўвалася пытанне, каб для дзяцей з улікам іх паводзін была магчымасць вызваліцца датэрмінова. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі будзе бачна, што дзіця адышло ад злачыннай дзейнасці», - заўважыў ён.

Па апошніх дадзеных, агучаных на нарадзе 8 красавіка, у месцах пазбаўлення волі ў Беларусі знаходзяцца больш за 4 тысячы асуджаных за незаконны абарот наркотыкаў. Прыкладна 1140 чалавек, у дачыненні да якіх прыгаворы ўступілі ў законную сілу, знаходзяцца ў следчых ізалятарах і чакаюць адпраўкі ў калоніі. «На сённяшняй нарадзе прэзідэнт запатрабаваў зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да ўмоў утрымання дадзеных злачынцаў. Мы ўзмоцнім дысцыплінарную практыку ў дачыненні да асуджаных, больш якасна будзем падыходзіць да пытанняў арганізацыі іх працы. Маральна-бытавыя ўмовы для гэтых асоб будуць значна горш, чым для ўсіх астатніх асуджаных», - адзначыў начальнік Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Сяргей Дарошка. Пры гэтым падыходы да кожнага зняволенага будуць індывідуальныя. Нагадаем, згодна з прынятым дэкрэтам № 6, у Беларусі стала больш жорсткай адказнасць для наркагандляроў. Дакумент павялічыў максімальнае пакаранне для гандляроў псіхатропнымі рэчывамі да 25 гадоў і зніізў мінімальны ўзрост для крымінальнай адказнасці па 328-м артыкуле КК з 16 да 14 гадоў.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада Н. Качанава пацвердзіла, што пры выбраным мяккім варыянце пенсійны ўзрост можа яшчэ павысіцца, калі гэта будзе неабходна з-за змены сітуацыі.

**Салігорск.** З пачатку года экспарт калійных угнаенняў "Беларуськалія" знізіўся на трэць, у доларах – на 37 % з-за зніжэння сусветных цэн, выручка студзеня толькі 142 мільёна долараў.

**Мінск.** На 85-м годзе жыцця памёр у рэанімацыі ад анкалагічнага захворвання апошні народны паэт Беларусі, навукоўца, выкладчык, шчыры патрыёт Айчыны Ніл Гілевіч.

**Гродна.** З 7-й спробы кітайцы купілі за 63 млрд. рублёў (3,1 млн долараў) на аўкцыёне 16-павярховы будынак гасцініцы "Гродна" 1986 года пабудовы з рэстаранам пры ёй.

**Мінск.** Вядомы эксперт А. Балточка заявіў, што павышэнне пенсійнага ўзросту адбылося з-за дэфіцыту сродкаў Пенсійнага фонду і было адной з умоў атрымання крэдыту МВФ.

**Гомель.** З-за эканамічнага крызісу ў Расіі колькасць непрададзеных камбайнаў "Гомсельмаша" дасягнула 1770 штук, з іх 1250 адзінак былі ў дылераў за межамі краіны.

**Бабруйск.** Старшыня Савета Рэспублікі М. Мясніковіч на "Белшыне" пацвердзіў, што падчас дэнамінацыі будзе акругленне цэн у больш бок, але іх рост не перавысіць 1-2 %.

**Мінск.** Начальнік Галоўнага ўпраўлення МУС Беларусі М. Карпенкаў пацвердзіў, што ўжо ўзбуджана 135 крымінальных спраў супраць беларускіх "баевікоў" на Украіне.

**Гродна.** Акружны суд Варшавы пакараў 4 гадамі турмы 35-гадовага супрацоўніка газеты "Вячэрні Гродна" Ю. Кійко за шпіянаж супраць Польшчы, газета ад яго адмовілася.

**Маларыта.** Ноччу пагранічнікі прымянілі зброю супраць п'янага вадзіцеля Audi, які каб пазбегнуць кантролю ў пагранзоне паспрабаваў іх задавіць і ўцячы з месца здарэння.

**Гомель.** З-за адмовы Расіі аб беларускай прадукцыі прадпрыемства інвалідаў па зроку "Светлатэхніка" на 2 месяцы адправіла сваіх работнікаў у неаплачваемы водпуск.

**Мінск.** Калі ў Расіі тэлевізар яшчэ перамагае паўпусты халадзільнік, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, то ў свядомасці беларусаў наадварот, але сацыяльных пратэстаў не будзе.

**Гродна.** За горадам міліцыя затрымала суценёра з Масквы, які спрабаваў вывезці дзвюх мясцовых дзяўчат ва ўзросце 19 і 21 гадоў для заняткаў прастытуцыяй у Кітай.

**Мінск.** На месцы кафэ "Сыты папа" на Камароўскім рынку ў маі адкрыецца першы рэстаран на 50 месц амерыканскай сеткі хуткага харчавання Texas Chicken з піўбарам.

**Камянец.** Ля вёскі Вілы ў лісінай нары знайшлі старажытны могільнік з фрагментам чалавечага цела і вялікай колькасцю рэштак керамікі часу ранняга бронзавага веку.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** На ААТ "Нафтан" падрыхтавалі да здачы ў эксплуатацыю ўстаноўку гідраачысткі № 2, у верасні запусцяць новую АТ-8 пярвічнай перапрацоўкі нафты.

**Орша.** Мясцовы льнокамбінат прадставіў у канцэрне "Беллегпрам" новыя калекцыі сваіх ільняных тканін і пашытыя ўзоры касцюмаў і сукенак з рэкламуемых ім узораў.

**Віцебск.** Юбілейны XXV фестываль "Славянскі базар" упершыню сёлета адкрыецца тэатралізаваным парадам удзельнікаў і цырымоніяй узняцця сцяга свята мастацтваў.

**Верхнядзвінск.** Былы намеснік дырэктара масласырзавода У. Ракшня ўзначаліў ільназавод, для атрымання авансу пад пасяўную заводу павялічылі дзяржзаказ на валакно ў 2,3 разы.

**Мёры.** Старшыня Дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях Беларусі А. Шумілін пазнаёміўся з ходам узвядзення завода па вытворчасці белай бляхі і металічных лістоў.

**Ушачы.** Упершыню раён наведала з 3-дзённым візітам дэлегацыя Плявінскай краявой думы Латвіі, быў падпісаны дагавор аб міжнародным супрацоўніцтве двух рэгіёнаў.

**Полацк.** Вечарам кіроўца іншамаркі на нерэгуляваным пешаходным пераходзе наехаў і збіў двух стрыечных братоў ва ўзросце 6 і 7 гадоў, абодвух з траўмамі шпіталізавалі.

**Віцебск.** На вачах аднакурснікаў з санкцыі пракуратуры ў прафтэхкаледжы лёгкай прамысловасці арыштавалі 17-гадовага навучэнца, які п'яны жорстка збіў старога мужчыну

**Лынтупы.** На ўчастку мясцовай заставы з дапамогай службовай сабакі пагранічнікі выявілі і затрымалі двух беларусаў, якія незаконна перасеклі граніцу з Літвой з тытунём.

**Лепель.** Па дарозе ў раённую бальніцу памёр 3-гадовы хлопчык, які пакінуты без нагляду праваліўся пад тонкі лёд, перад ім так трагічна загінуў і 42-гадовы рыбалоў.

**Віцебск.** Ва ўласнай кватэры ў абласным цэнтры трое маладых мужчын ва ўзросце 25, 27 і 31 гадоў да смерці збілі 64-гадовага пенсіянера, перад гэтым мярзотнікі выбілі ўваходную дзвер.

**Глыбокае.** Суд раёна задаволіў іск ААТ "Залатая падкова" па вяртанні "пад'ёмных" грошай, выплачаных беспрацоўным перасяленцам з Пастаўскага раёна і Маладзечна.

**Талачын.** На тэрыторыі мехдвара "Кохановаагра" ў вёсцы Заазер'е трагічна загінуў 67-гадовы пенсіянер, які самавольна разбіраў пустуючы будынак, быў забіты плітой бетону.

**Браслаў.** Па невядомай прычыне вечарам у вёсцы Домашы ў адсутнасць гаспадароў загарэўся жылы дом, агонь знішчыў практычна ўсю хату і маёмасць людзей.

**Верхнядзвінск.** Жыхар гарпасёлка Асвея заплоціць буйны штраф пасля затрымання з адсечанай галавой муфлона ля вальера паляўнічай гаспадаркі "Чырвоны бор".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ **Уладзімір Скрабатун**

# "Не з ніякага прымусу, але з добрай волі і жадання майго на памнажэнне хвалы Божай..."

Нам добра вядомы Язэп Львовіч Корсак, які ўганараваны помнікам на Алеі Славы ў Глыбокім. Ваявода Мсціслаўскі, стараста дзісненскі, пасол на Сойм Рэчы Паспалітай, уладальнік паўночна-ўсходняй часткі Глыбокага і Беразвечча, фундатар шматлікіх храмаў, не толькі Глыбокага, але і "на самым рубяжы маскоўскім" – у Вярбілаве (цяпер Пскоўская вобласць). Партрэт ваяводы Корсака, стараннямі Аляксандра Корсака, жыхара Варшавы, з выкарыстаннем старой кніжнай ілюстрацыі, быў нядаўна напісаны наноў мастаком Пятром Валенскім і знаходзіцца сёння ў інтэр'еры касцёла св. Тройцы ў Глыбокім.

Аднак, нам вядома, што і ўдзельскі касцёл і кляштар францішканцаў быў узведзены паводле фундацыі аднаго з Корсакаў – Язэпа Рыгоравіча Корсака з удзельскай галіны гэтага роду.

Касцёл і кляштар францішканцаў узведзены паводле яго фундацыі ад 30 ліпеня 1642 года. Натуральна, што першапачаткова касцёл быў драўляны. Цяперашняя каменная версія, якую мы бачым – пабудова 1740 года. Касцёл меў выгляд у стылі барока з дзвюма вежамі па баках (як і храмы Глыбокага), аднак у 1837 годзе гэтыя вежы былі разабраныя, як і фігурны франтон паміж імі. Храм страціў свой прыгожы і велічны выгляд. Інтэр'ер храма таксама страціў барочнае афармленне і быў вытрыманы ў стылі класіцызму. У гэтым жа годзе перад касцёлам была ўзведзеная брама-званіца.

Якая матывацыя рухала Язэпа Корсака Удзельскага на ўзвядзенне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны і кляштара францішканцаў? Пачытаем урывак з яго завяшчання*:

«Я, Язэп Корсак Удзельскі, земляўласнік Яго Каралеўскай Мосці Полацкага ваяводства, абвяшчаю ўсенародна і прызнаю гэтым маім добраахвотным фундацыйным лістом запіс на векі вечныя, абы тыя, якія павінны, бачылі, сучаснікі і тыя, якія будуць жыць у будучыні, што я, зважаю, што на свеце няма праўдзівей над смерцю, часу і гадзіны ніхто ўбачыць не можа, калі, як і гэтае сваё тленнае наша жыццё скончыць прыйдзецца, належыць болей старацца аб памнажэнні хвалы Божай і збаўленні сваім, абы пасля смерці праз каплана[1] за душы ахвяры святыя былі адпраўленыя. Таму я, Язэп Корсак Удзельскі задумаў і пастанавіў быў у згодзе са сваёй мілай сужэнкай, якая з гэтага света ўжо зышла, паняй Марыянай Швяйкоўскай, фундаваць у маёнтку нашым Удзел айцоў францішканцаў. Тады я, Язэп Корсак Удзельскі, робячы жаданне сваё так, як і згодна волі і абяцання сужэнкі сваёй, маючы вольнасць дараваную правам паспалітым, абы землямі сваімі айчыннымі, на векі вечныя і набытымі маёнткамі, ляжачымі і рухомымі, раздаваць і звяртаць, даць, даравацъ, прадаць на касцёл і каму хачу, на вечныя часы паводле свайго ўпадабання запісаць, не з ніякага прымусу, але з добрай волі і жадання свайго, на памнажэнне хвалы Божай, выконваючы дакладна з воляй памерлай мілай сужэнкі маёй і абяцаннямі Пану Богу, дадзенымі намі абоімі, учыненымі супольна, у адпаведнасці з Сеймавай Канстытуцыяй, прынятай у 1635 годзе, прызнаю тое перад судом, што гэтая фундацыя ўчыненая з маіх уласных маёнткаў, ніякіх грошай з таго не ўзяўшы, запісваю і на векі вечныя і неадкліканым правам фундую на кляштар святога Францішка. Калі, якіясь будуць змены ў тэстаменце[2], то ўсе на векі вечныя на [карысць] законнікаў[3] удзельскага кляштара францішканцаў маюць належаць. Апроч таго для аздобы касцёла падчас працэсіі, якія адпраўляюцца на Божае Нараджэнне, на Вялікдзень, на Божае Цела, запісваю два маіх гусарскіх і казацкіх бубны разам з некалькімі мушкетамі на аздобу і абарону ўдзельскага касцёла. А так, як закон гэты не для чаго іншага фундуем, толькі для таго абы Пан Усявышні праз капланаў святымі ахвярамі за нашыя грахі малітвамі ўпрошваць, гэты абавязак на капланаў ускладаю і ў капланскім сумленні іх абавязваю, абы на векі вечныя за душы маю і маёй мілай памерлай сужэнкі, як фундатараў, Пана Бога малілі, адпраўляючы імшы святым спяваннем два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу, перад вялікім алтаром, пры якім нашыя целы будуць спачываць. (…)"



**Язэп Корсак Удзельскі**, фундатар касцёла і кляштара фрацішканцаў у Удзеле.**



**Марыяна Корсак, жонка Язэпа Корсака Удзельскага, фундатара касцёла і кляштара фрацішканцаў у Удзеле.**



**Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны ў Удзеле.**

Пры жаданні і партрэт Язэпа Корсака Удзельскага, фундатара касцёла, можна напісаць наноў з выкарыстаннем прапанаванай у нашай публікацыі ілюстрацыі, і змясціць яго ў удзельскім храме.

**Крыніцы:**

* Diecezja Mińska około 1830 roku / Ignacy Borejko Chodźko.
** Wędrowiec, 1902, Nr. 30, польскі падарожна-геаграфічны, а потым грамадска-культурны ілюстраваны тыднёвік, які выдаваўся ў Варшаве з чэрвеня 1863 г да 1906 года.

**Тлумачэнні па тэксту:**

1. Святароў (ксяндзоў).
2. Завяшчанне.
3. Манахаў ордэна (закона) францішканцаў.

# У Беларусі 6 красавіка паветра прагрэлася да 26,2 градуса цяпла, пабіты рэкорд дня 70-гадовай даўніны

**Новы тэмпературны рэкорд дня ўстаноўлены ў Беларусі 6 красавіка.**

На метэастанцыі "Палеская" ў Брэсцкай вобласці паветра прагрэлася да 26,2 градуса цяпла. Ранейшы максімум — 23,7 градуса — быў зафіксаваны ў 1946 годзе ў Васілевічах (тады Палеская, цяпер Гомельская вобласць).

На "Палескай" рэкорд складаў да гэтага 19 градусаў (6 красавіка 1985 года). У тройку самых цёплых месцаў увайшлі таксама Пінск (Брэсцкая вобласць) — 25,9 градуса (рэкорд быў роўны 22 градусы, зарэгістраваны ў 1946 годзе) і Жыткавічы (Гомельская вобласць) — 25,8 (23 градусы таксама ў 1946 годзе).

У абласных цэнтрах рэкорды дня выстаялі, а ў Мінску рэкорд абнавіўся — 21,4 градуса пры прагнозе 17—19 (было 20,6 у 1946 годзе).

Прагрымелі першыя красавіцкія навальніцы, якія прынёс халодны фронт.

(Выкарыстаныя аператыўныя і архіўныя звесткі рэсурсаў pogoda.by і meteoinfo.by.)

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

**Белстат апублікаваў статыстычны даведнік, прысвечаны колькасці насельніцтва ў гарадах і мястэчках Беларусі па стане на 1 студзеня 2016 года.**

# Ад Мінска да Дзісны — топ-10 найбуйнейшых і найменшых гарадоў Беларусі



Дзісна.

**Дзісна – самы маленькі горад Беларусі.**

Як ранжыраваліся гарады Беларусі па колькасці насельніцтва?

**Топ-10 найбуйнейшых гарадоў (у дужках прырост за год).**

**1.** Мінск – 1 959 781 (+21501)
**2.** Гомель – 521 452 (+4476)
**3.** Магілёў – 378 077 (+3422)
**4.** Віцебск – 368 574 (+2275)
**5.** Гродна – 365 610 (+4258).
**6.** Брэст – 340 141 (+4496).
**7.** Бабруйск – 217 975 (-288).
**8.** Баранавічы – 179 122 (+233).
**9.** Барысаў – 143 919 (-1026).
**10.** Пінск – 138 415 (+896).

**Топ-10 найменшых гарадоў (у дужках прырост за год).**

**1.** Дзісна – 1537 (-56)
**2.** Косава – 1850 (-65)
**3.** Тураў – 2795 (+24)
**4.** Высокае – 5164 (-62)
**5.** Давыд-Гарадок – 5946 (-112)
**6.** Мядзел – 6871 (-53)
**7.** Докшыцы – 6906 (+56)
**8.** Дуброўна – 7224 (-121)
**9.** Сянно – 7385 (-113)
**10.** Клічаў– 7423 (+16)

# СКМ "Нагляд": мэта і вынікі мерапрыемства

**Барацьба са злачыннасцю – адна з самых актуальных і важных праблем нашага грамадства. У сучасным свеце гэта тэма стала вельмі надзённай, якая патрабуе максімальна падвышанай увагі.**

■ **С. Ешчанка,** *начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі*

Таму ў Рэспубліцы Беларусь з кожным годам распрацоўваецца ўсё больш розных мер па барацьбе з ростам злачынстваў.

У Глыбоцкім раёне ў 2016 годзе, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, назіраецца зніжэнне колькасці зарэгістраваных злачынстваў (з 89 да 63 злачынстваў). Прысутнічае станоўчая дынаміка злачыннасці, аднак нягледзячы на яе зніжэнне назіраецца рост злачынстваў, учыненых на тэрыторыі населеных пунктаў у сельскай мясцовасці.

У мэтах прадухілення дадзеных негатыўных момантаў на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Нагляд" (далей СКМ "Нагляд"), якое праходзіла з 23 па 31 сакавіка 2016 года. Асноўнымі задачамі дадзенага мерапрыемства з'яўляліся ўзмацненне кантролю за паводзінамі і ладам жыцця асоб, якія маюць судзімасць, актывізацыя работы па выяўленні парушэнняў патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, парадку і ўмоваў адбыцця пакарання, прыняцце мер па ліквідацыі прычын і ўмоў, якія садзейнічаюць учыненню рэцыдыўных злачынстваў.

Адной з дзейсных мер па прафілактыцы рэцыдыўнай злачыннасці з'яўляецца ўсталяванне прэвентыўнага нагляду, які ўсталёўваецца судом за асобамі, судзімымі за ўчыненне цяжкіх, асабліва цяжкіх злачынстваў, або судзімых два і больш разы да пазбаўлення волі за ўчыненне наўмысных злачынстваў.

Прэвентыўны нагляд выяўляецца ў неабходнасці выканання з боку паднаглядных пэўных абмежаванняў, такіх як: забарона пакідаць абранае месца жыхарства ў пэўны час сутак, часцей за ўсё з 22 гадзін да 6 гадзін раніцы; наведванне вызначаных месцаў, у прыватнасці, месцаў продажу спіртных напояў на разліў, масавых мерапрыемстваў; з'яўляцца ў РАУС для рэгістрацыі да 4 разоў у месяц і г.д.

У бягучым годзе па ініцыятыве Глыбоцкага РАУС ужо ўстаноўлена 4 прэвентыўных нагляды. Усяго на ўліку ў інспекцыі зараз 6 асоб, за якімі ўстаноўлены прэвентыўны нагляд.

За парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. Пакаранне паднаглядных, якія ўпершыню парушылі абмежаванні патрабаванняў прэвентыўнага нагляду па арт.24.12 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф памерам ад 6 да 10 базавых велічынь, а ў выпадку паўторнага парушэння санкцыя ўказанага артыкула прадугледжвае сабой штраф памерам ад 8 да 50 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Аднак нягледзячы на жорсткія санкцыі дадзенага артыкула, паднаглядныя працягваюць парушаць ускладзеныя на іх абавязкі. Так за мінулы перыяд 2016 года было складзена 20 адміністрацыйных пратаколаў за парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, а ў дачыненні да грамадзяніна К., які паўторна прыцягваўся за дадзенае правапарушэнне судом Глыбоцкага раёна было вынесена спагнанне ў выглядзе адміністрацыйнага арышту тэрмінам на 15 сутак.

У выпадку далейшага невыканання паднаглядным і патрабаванняў прэвентыўнага нагляду надыходзіць крымінальная адказнасць па арт.421Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе арышту або пазбаўлення волі на тэрмін да 1 года.

Устанаўленне прэвентыўнага нагляду абмяжоўвае ў правах асобу, якая падпадае пад яго дзеянне. Таму, каб пазбегнуць прымянення ў дачыненні да раней судзімых асоб такіх мер кантролю, як прэвентыўны нагляд, ім неабходна весці законапаслухмяны лад жыцця і не ўчыняць ніякіх правапарушэнняў.

У перыяд правядзення СКМ "Нагляд" на тэрыторыі Глыбоцкага раёна рэцыдыўных злачынстваў асобамі, якія маюць не знятую і не пагашаную судзімасць, на тэрыторыі раёна дасягнуты пэўныя вынікі, станоўча ўплываюць на аздараўленне крыміногенай абстаноўкі.

# Яшчэ раз пра захаванасці маёмасці і прызабытых простых ісцінах!



**У адпаведнасці з заканадаўствам, а менавіта Закона ад 08.11.2006 года №175-З "Аб ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" (далей – Закон) арганізацыі, якія не валодаюць правам стварэння ваенізаванай аховы, маюць права ажыццяўляць ахоўную дзейнасць сіламі работнікаў аховы, у т. л. стварыць для гэтых мэтаў падраздзяленне аховы.**

■ **В. Белы,** *старшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі*

Прыгэтым у адпаведнасці з арт.9 Закона такая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ахоўную дзейнасць. У выпадку адсутнасці ліцэнзіі на ахоўную дзейнасць у юрыдычнай асобы, у адпаведнасці з арт. 23.57 КоАП Рэспублікі Беларусь, за парушэнне ўмоў і правілаў ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці юрыдычная асоба прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе накладання штрафу ў памеры ад 10 да 100 базавых велічынь.

Таксама хацелася б нагадаць, што ў адпаведнасці з абзацам 2 падпункта 3.1. пункта 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 2015 года №475 "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (далей Указ) усім юрыдычным асобам, якія маюць ліцэнзію на ахоўную дзейнасць, неабходна да 1 сакавіка гэтага года забяспечыць выкананне ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў, прадугледжаных гэтым Указам і ў тэрмін з **1 сакавіка да 1 чэрвеня** прадаставіць у Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь пісьмовую інфармацыю аб забеспячэнні выканання ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў з завераным пячаткай подпісам кіраўніка. У выпадку не прадастаўлення інфармацыі ў названы тэрмін, у адпаведнасці з Указам, бланкі спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) з'яўляюцца бланкамі строгай справаздачнасці, падлягаюць абавязковай здачы ў ліцэнзуючы орган пасля спынення дзейнасці. Ліцэнзуючы орган і мантажная група сродкаў і сістэм аховы размешчаны па адрасе: г.Глыбокае, вул. Мінская д.1, Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, тэлефон для даведак: 2-12-63; 2-33-63.

Хацелася б спыніцца яшчэ на адным важным напрамку ахоўнай дзейнасці, а менавіта, на захаванасці сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі пасяўнога фонду, ГЗМ, ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Як правіла, у гэтым кірунку спрыяе: добрая тэхнічная ўмацаванасць памяшканняў, складоў, дзе захоўваюцца: дарагія ядахімікаты, матэрыяльныя каштоўнасці, мінеральныя ўгнаенні і пасяўны фонд, паліва для с/г тэхнікі, агрэгаты і тэхніка, ажыццяўленне належнага кантрольна-прапускнога рэжыму на ўсіх ахоўных аб'ектах. Ужо даказана чужымі памылкамі, што пры правільнай арганізацыі працы вартавой аховы і кантролю з боку кіраўніцтва, яго можна перанесці на плечы тэхнікі, дарэчы Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь прапануе скарыстацца юрыдычным асобам у г.Глыбокае магчымасцю заключэння дагавора на ажыццяўленне тэхнічнага маніторынгу на ахоўных аб'ектах, пры дапамозе ўстаноўкі прылад кантролю персаналу.

Прылада кантролю персаналу (далей-УКП) прызначана для забеспячэння своечасовай адзнакі персаналу паста аховы (вартаўнікоў, ахоўнікаў, кантралёраў КПП) у зададзеных інтэрвалы часу ў адпаведнасці з распрацаванымі графікамі пра знаходжанне яго на пасадзе. УКП у інтэрвалы часу, якія вызначаюцца запраграмаваным графікам, чакае адзнакі ключа доступу. У выпадку своечасовай адзнакі, УКП чакае наступны інтэрвал кантролю. У выпадку несвоечасовай адзнакі за 5 хвілін да заканчэння ўключаецца гукавы сігнал, а пасля заканчэння сігнал трывогі паступае на пульт цэнтралізаванага назірання падраздзялення аховы. На месца выязджае нарад групы затрымання аддзела аховы для высвятлення прычын несвоечасовай адзнакі. Кантроль за працай ведамаснай аховы пры дапамозе тэхнічнага маніторынгу з'яўляецца дзейсным з мэтай выканання ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці, устаноўленых п.7 абз.382.3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.2010г. №450 "Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці", бо вартаўнік павінен штогадзіны прыкладаць УД да ШУ, а ў выпадку фізічнага маніторынгу кантроль можа забяспечвацца праверкай максімальна раз за змену, а таксама мерамі па забеспячэнні бяспекі вартаўнікоў (устаноўка кнопкі экстранага выкліку міліцыі ў зоне дыслакацыі нарадаў міліцыі, г.зн. у г. Глыбокае, выдачы ім ліхтарыкаў у начны час), абсталяваннем месцаў захоўвання ТМЦ сродкамі ахоўнай сігналізацыі. Крадзяжы і п'янства сярод вартавога складу, сон на варце адпадуць самі сабой і кіраўніку не трэба будзе думаць пра прычыны ўчыненага крадзяжу, пісаць заяву ў органы ўнутраных спраў, шукаць іншыя выхады з сітуацыі.

Усё ж, хацелася б спадзявацца і верыць, што кожны кіраўнік прадпрыемства, арганізацыі, установы ці прыватны ўласнік у любой сітуацыі будзе заўсёды заставацца гаспадаром з вялікай літары гэтага слова і пагаспадарску будзе беражліва ставіцца як да сваёй, так і дзяржаўнай маёмасці!

# Спіс "дармаедаў" будзе скарочаны

**У дэкрэт прэзідэнта № 3 ад 2 красавіка 2015 года "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства" будуць унесеныя змены.**

Як паведаміў тэлеканал ОНТ у вячэрняй праграме "Нашы навіны" 9 красавіка, спіс плацельшчыкаў збору на фінансаванне дзяржрасходаў стане меншым. Гэты збор плацяць грамадзяне, якія ў год афіцыйна працуюць менш за 183 дні. Дакументам прадугледжаныя падставы для вызвалення ад выплаты збору — іх неўзабаве пашыраць.

"Напрыклад мамы, якія не працуюць, атрымаюць магчымасць не плаціць збор, пакуль дзіцяці не споўніцца 10 гадоў. Раней — толькі да сямі. Мясцовыя саветы дэпутатаў змогуць вызваляць ад збору і ў выпадку цяжкай фінансавай сітуацыі ў сям'і. А вось ўхіліцца ад плацяжу на падставе ліпавых дакументаў падатковыя органы не раяць. Ёсць выпадкі, калі расійскія фірмы прапануюць падробленыя даведкі аб тым, што чалавек працаваў за мяжой. Але гэтую інфармацыю спецыялістам праверыць нескладана", — паведамілі ў рэпартажы тэлеканала.

У інтэрв'ю ОНТ міністр па падатках і зборах Беларусі Сяргей Налівайка сказаў: "Паверце, дастаткова мер і сродкаў для выяўлення такога кшталту ашуканцаў, і мы вядзем працу ў тым плане, каб былі мінімальныя магчымасці ўвесці ў зман падатковую службу. Магчыма, на 100% мы не здолелі перакрыць гэтыя каналы, але праца ў гэтым кірунку вядзецца, і паверце, што найбліжэйшым часам мы дасягнем гэтага выніку".

Канчатковыя спісы плацельшчыкаў збору сфарміруюць да 1 жніўня. Пакуль у падатковыя органы з уласнай ініцыятывы, а ў гэтым выпадку сума плацяжу зменшаецца на 10%, прыйшлі больш за 1.600 чалавек.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

